Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 820.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Серада, 2 верасня 1998 г. № 92 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## «Мінімалка» ўзрасце

**З 1 кастрычніка, у адпаведнасці з пастановай Савета міністраў, мінімальны заробак будзе павялічаны да 350 тысяч рублёў. Тарыфная стаўка 1 разраду складзе 700 тыс. рублёў.**

Але рост мінімальнага заробку на 40% толькі часткова кампенсуе падзенне рэальных даходаў насельніцтва ад зніжэння курса беларускага рубля. Практыка мінулых гадоў паказвае, што звычайна ў цэлым па эканоміцы рэальны заробак павялічваецца прыкладна ў 1,5 раза менш, чым мінімальны.

Тым часам толькі ў жніўні курс (а значыць — і рэальны кошт) беларускага рубля знізіўся больш як на 30%.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Рэцэпт ад Лукашэнкі

**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўспрымае падзеі ў Расіі з «вялікім шкадаваннем».**

Пра гэта ён заявіў на брыфінгу, які прайшоў 31 жніўня ў адміністрацыі прэзідэнта пасля завяршэння сустрэчы з членамі в'етнамскай афіцыйнай дэлегацыі.

*«Гэта вышэйшы чарговы псіхоз,* — сказаў А.Лукашэнка. — *Усё, што там адбываецца, мала звязанае з эканомікай. Ідзе палітычны гандаль, падчас якога ніхто не думае пра людзей. Таму я сёння далёкі ад таго, каб гаварыць пра нейкія сцэнары. Гэта справа расійскага боку. Сёння стаіць пытанне аб выбары далейшага шляху, і кіраўніцтву Расіі прыйдзецца вызначацца і выбіраць».*

Прэзідэнт таксама заявіў, што крызіс у Расіі *«падштурхоўвае да збліжэння кіраўніцтва як мінімум трох дзяржаваў ва ўсіх сферах». «Калі гэта не адбудзецца, то будзе ўчыненае злачынства перад народамі Расіі, Беларусі і Украіны»,* — заявіў беларускі прэзідэнт.

## Чатыры плюс адзін

**У наступны аўторак прэзідэнт Лукашэнка адправіцца ў Казахстан.**

З 8 па 11 верасня ў Алматы пройдзе паседжанне кіраўнікоў урадаў і кіраўнікоў дзяржаваў Беларусі, Расіі, Казахстана, Кіргізіі, а таксама Таджыкістана. Удзельнікі паседжання абмяркуюць праблемы паглыблення адносінаў у эканамічнай і гуманітарнай галінах. Прэзідэнты краінаў «чацвёркі», а таксама кіраўнік Таджыкістана падпішуць па формуле «чатыры + адзін» Дагавор аб заключэнні мытнага саюза і фарміраванні ў межах пяці дзяржаваў адзінай эканамічнай прасторы.

*БелаПАН*

*Хартыя-97*

## Сустрэчы ў Швейцарыі

**Каардынатар Хартыі'97 па міжнародных сувязях Андрэй Саннікаў сустрэўся 30 жніўня з віцэ-прэзідэнтам Швейцарыі Рут Дрэйфус.**

У размове, якая тычылася перш за ўсё становішча ў Беларусі, спадарыня Дрэйфус зазначыла, што для нармальнага развіцця беларуска-швейцарскіх адносінаў неабходна, каб у самой Рэспубліцы Беларусь была нармалізаваная сітуацыя. У разуменні Швейцарыі, гэта азначае перш за ўсё павагу да правоў чалавека. Пакуль становішча з правамі чалавека, дэмакратычнымі прынцыпамі ў Беларусі не зменіцца, няма чаго чакаць якіх-небудзь зменаў і ў пазіцыі Швейцарыі. Як вядома, менавіта на нейтральную Швейцарыю спадзяюцца беларускія ўлады ў плане легітымізацыі вынікаў рэферэндуму 1996 года.

*Прэс-цэнтр Хартыі'97*

## Антановіч у Афрыцы

**У Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы праходзіць чарговы саміт краінаў Руху недалучэння.**

Беларусь удзельнічае ў гэтым форуме ў якасці назіральніка, дэлегацыю РБ узначальвае міністр замежных справаў Іван Антановіч. Як паведамляе прэс-служба МЗС, наша краіна збіраецца стаць паўнапраўным членам Руху недалучэння і ўжо падала афіцыйную заяўку, якая будзе канчаткова разгледжаная 2—3 верасня.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## 8 верасня будзе шэсце

**8 верасня па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту ў Мінску будзе адзначацца Дзень беларускай вайсковай славы. Адбудзецца шэсце і мітынг.**

Такую акцыю БНФ ладзіць штогод у гонар перамогі беларускага войска над маскоўскім у бітве пад Оршай 8 верасня 1514 г.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**




## Знік Сувораў

У ноч з 31 жніўня на 1 верасня ў Віцебску знік з пастамента бюст Суворава, які стаяў паблізу райаддзела міліцыі.

Адказнасць за гэты ўчынак узяў на сябе Мірон, які пакінуў на месцы традыцыйную цыдулку: *«У 1794 г. Сувораў патапіў у крыві паўстанне беларусаў за незалежнасць і супраць расійскай акупацыі. Для расійцаў ён герой, для нас, беларусаў, — акупант. Прэч акупантаў з нашай зямлі!»*

Раніцай шматлюдны атрад міліцыі і следчых здымаў сляды вакол пустога пастамента.

**Юрась КАРПАЎ**

# Крызіс не пройдзе міма

Фінансавы крызіс у Расіі паўплывае не толькі на курс беларускага рубля і кошты ў беларускіх крамах. Прадстаўнікі беларускіх банкаў, да якіх звярнуўся па каментары карэспандэнт НАВІНАЎ, лічаць: наступствы расійскага крызісу будуць вельмі сур'ёзнымі і балючымі для нас.

### Чарговае збядненне

Па словах спецыялістаў, беларускія банкі (як і расійскія) таксама пацярпелі ад развалу расійскай дзяржаўнай фінансавай піраміды — рынку дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацыяў. Сярод беларускіх банкаў і іх кліентаў укладанні ў каштоўныя паперы расійскага ўрада былі даволі папулярныя. Нічога дзіўнага: яны кіраваліся звычайнай рынкавай кан'юнктурай. Гэта давала добры працэнт, непараўнальны з тым, які можна было атрымаць на беларускім рынку. Да таго ж даход быў амаль у цвёрдай валюце — расійскіх рублях.

Але цяпер урад РФ (усё роўна як славутая кампанія «МММ») не ў стане выкупіць свае каштоўныя паперы. Вынік сумны — шэраг буйных беларускіх банкаў страцілі свае грошы і ўкладанні сваіх кліентаў. Канечне, урад не можа аб'явіць сябе банкрутам. Грошы калі-небудзь аддадуць, але пытанне — калі? І колькі гэтыя грошы будуць тады каштаваць?

У дзесяткі разоў патаннелі і акцыі расійскіх прадпрыемстваў, спекуляцыя якімі стала ў апошні час даволі модным бізнесам і для беларускіх банкаў.

Яшчэ адна відавочная прычына стратаў — абясцэненне расійскага рубля. Буйныя беларускія прадпрыемствы, калі экспартавалі сваю прадукцыю ў Расію, стараліся атрымаць за яе не толькі бартэр, але і расійскія рублі. Расійскую валюту нашыя заводы збіралі на рахунках у беларускіх або ў расійскіх банках. Але цяпер рэальныя валютныя запасы беларускіх экспарцёраў значна зменшыліся — разам з коштам расійскага рубля. А ўлічваючы, што шмат расійскіх банкаў знаходзяцца на мяжы банкруцтва, частку грошай беларускіх прадпрыемстваў і банкаў можна лічыць проста страчанай.

Моцна пацярпелі і простыя беларусы. Шмат хто (асабліва з ліку тых, хто выязджаў на працу ў Расію) трымалі свае ашчаджэнні ў расійскіх рублях. І давер да валюты «старэйшага брата» каштаваў ім дорага.

Ад падзення курса пацярпеў нават Нацыянальны банк Беларусі: ён таксама захоўваў частку сваіх валютных рэзерваў у расійскіх рублях.

Страты беларускіх банкаў, калі яны дасягнуць значных памераў, могуць адбіцца фактычна на кожным укладчыку. Вядома, што дзяржава дае гарантыю па валютных укладах у буйнейшых банках. Але гэтыя напаўдзяржаўныя банкі, па ацэнках спецыялістаў, якраз і панеслі найбольшыя страты. І невядома, ці хопіць у дзяржавы і банкаў валюты, каб вярнуць укладчыкам грошы. Таму, на думку некаторых, *«трэба добра паразважаць, ці варта несці валюту ў банк».* Канечне, 15% у год (у лепшым выпадку 16,5%) выглядаюць заманліва, але ёсць рызыка. Што ж да рублёвых дэпазітаў, то працэнтныя стаўкі ў памеры 4% у месяц у параўнанні з 30% падзеннем курса рубля выглядаюць проста здзекам.

### Новы курс

Даўно вядома, што людзі стараюцца захоўваць свае ашчаджэнні ў цвёрдай валюце. Таму жнівеньскае падзенне наяўнага курса беларускага рубля больш як на 30% не выклікала асаблівай панікі. Але ж абсалютная большасць людзей атрымлівае заробкі ў рублях, і цяпер яны зарабляюць на 30% менш, чым раней.

Не дзіўна, што гандляры на рынках заўважаюць: плацежаздольнасць беларускіх пакупнікоў рэзка зменшылася. Прадпрымальнікі на мінскім рынку «Дынама» адзначаюць падзенне абароту прыкладна на палову. Кошты на тавары, пераведзеныя ў беларускія рублі, выклікаюць жах у пакупнікоў.

Пакуль яшчэ не паспелі распрадаць старыя пастаўкі тавараў па ранейшых коштах. Імпартнае харчаванне, цыгарэты, парфума і іншыя тавары каштуюць у крамах часам значна танней, чым на рынку. Але пачалі ўжо з'яўляцца і тавары па новых коштах. Так што пройдзе яшчэ пара тыдняў — і цэны значна вырастуць паўсюль. Прычым спецыялісты прагназуюць рост як мінімум на 40—50%, бо курс безнаяўнага беларускага рубля за жнівень упаў ажно на 70%.

Таму калі ў вас яшчэ засталіся нейкія беларускія грошы — самы час паспяшацца і купіць рэч, якую ўжо даўно планавалі набыць. Калі не хапае — лепш пазычце пэўную суму ў сваякоў ці знаёмых, абмяняйце пару дзесяткаў долараў і купіце цяпер. Абыдзецца танней.

### Невясёлая будучыня

На думку спецыялістаў, найбольш сур'ёзным наступствам расійскага крызісу будзе скарачэнне гандлю з Расіяй. Статыстыка сведчыць: з кожных 10 беларускіх тавараў, якія прадаюцца за межамі краіны, 7 пастаўляецца ў Расію. Таму, каментуюць эксперты, *«калі разваліцца шэраг расійскіх банкаў, збанкрутуюць прадпрыемствы—пакупнікі беларускіх тавараў — і попыт на прадукцыю беларускіх вытворцаў зменшыцца. У выніку — зменшацца і даходы беларускіх прадпрыемстваў, і заробкі беларускіх рабочых».* Так што падзенне ўзроўню жыцця ў Беларусі выглядае не вельмі далёкай перспектывай.

Але не варта зусім траціць аптымізм. Гэта не першы крызіс, неяк перажывем. Некаторыя скампенсуюць свае страты за кошт чаўночнага гандлю з Расіяй. Калі ўрад не адпусціць кошты, то гандаль беларускімі таварамі, напрыклад, у Маскве стане зноў вельмі прыбытковай для чаўнакоў справай. Нехта скароціць выдаткі, нехта адшукае дадатковую працу ці пакіне Беларусь і будзе шукаць заробку за мяжой.

І ўсё ж большасць беларусаў пабяднее. І так можа паўтарацца бясконца, калі не пабудаваць нармальную рынкавую эканоміку, якая не залежала б выключна ад выбрыкаў і праблемаў суседняга суседа.

**Алесь САДОЎСКІ**

ПАДПІСКА

*Шаноўныя чытачы!*

*Падпісная кампанія на чацвёрты квартал 1998 года ў самым разгары.*

*Газету* **НАВІНЫ** *можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і Белсаюздруку.*

*Кошт падпіскі на месяц – 40.000 руб.*

*Наш падпісны індэкс 63312*

ПАКУЛЬ ЁСЦЬ ГРОШЫ — ПАДПІШЫСЯ НА НАВІНЫ

# Кіраваць футболам будзе авіятар

**Канферэнцыя Беларускай федэрацыі футбола, якая адбылася 31 жніўня ў Мінску, абрала новага кіраўніка гэтай грамадскай арганізацыі.**

Ім стаў 46-гадовы старшыня Дзяржкамітэта па авіяцыі Рыгор Фёдараў. За ягоную кандыдатуру прагаласавалі 137 са 145 удзельнікаў канферэнцыі. Нагадаем, што адстаўкі папярэдняга кіраўніка федэрацыі Яўгена Шунтава запатрабаваў Лукашэнка, які ўсклаў на Шунтава адказнасць за нявыплату зарплаты футбалістам некаторых клубаў. Кіраўнік футбольнай федэрацыі падаў у адстаўку, але на ягоную абарону ўстаў Еўрапейскі саюз футбольных асацыяцыяў УЕФА. Еўрапейская арганізацыя папярэдзіла беларускія ўлады, што калі тыя будуць умешвацца ў справы футбольнай федэрацыі, то УЕФА прыменіць адпаведныя санкцыі. Беларусь магла быць выключаная з міжнародных футбольных структураў, таму выканкам БФФ 24 ліпеня адстаўку Шунтава не прыняў.

Аднак Лукашэнка не той чалавек, якога могуць спыніць пагрозы нейкіх санкцыяў. Навесці парадак у футбольнай федэрацыі ён даручыў Уладзіміру Замяталіну, які і пачаў праводзіць адпаведную работу з членамі выканкама футбольнай арганізацыі. І вось у панядзелак дэлегаты канферэнцыі, на якой прысутнічаў усё той жа Замяталін, выканалі ўсе дэмакратычныя фармальнасці, задаволілі просьбу Шунтава аб адстаўцы і абралі новага кіраўніка. Цяпер УЕФА наўрад ці мае падставы абвінавачваць беларускія ўлады ў ціску на футбольную федэрацыю, усю брудную работу выканалі самі члены гэтай арганізацыі. Але ці выйграе ад гэтага беларускі футбол?

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*У госці да Чыкіна і Малафеева*

## Прыехалі таварышы з Кітая

**Па запрашэнні беларускіх камуністаў з КПБ (Чыкіна, Малафеева) у Мінску знаходзіцца дэлегацыя партыйных таварышаў з Кітая.**

Здавалася б, зусім будзённая рэч: звычайны партыйны візіт кітайскіх барацьбітоў за светлую будучыню да сваіх беларускіх паплечнікаў. Але афіцыйны Мінск надаў прыезду прадстаўнікоў кіруючай партыі Кітая дзяржаўны характар.

Кітайцаў прымалі ў прэзідэнцкай палаце, і віцэ-спікер Уладзімір Канаплёў выказаў таварышам удзячнасць за падтрымку беларускіх «парламентарыяў» на міжнародных форумах. Пабывалі камуністычныя дэлегаты і ў беларускім МЗС. Па выніках візіту кітайцы плануюць падпісаць з беларускім кіраўніцтвам нейкія выніковыя дакументы.

А што рабіць, калі ў Беларусь ніхто з сур'ёзных палітыкаў, акрамя азіяцкіх камуністаў, прыязджаць не жадае.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Пірацкія метады супраць відэапіратцтва

**Беларускія фірмы відэапракату перажываюць цяпер найгоршыя часы ў сваёй гісторыі.**

Рэзка знізіліся прыбыткі, змяншаецца колькасць відэакіёскаў, а са студыяў, дзе раней запісваліся відэакопіі славутых стужак, у пажарным парадку вывозіцца абсталяванне. Гэтую «ліхаманку» ўжо адчуў і шараговы пакупнік. Сёння ў Мінску цяжка купіць добрую копію галівудскай навінкі.

Што ж здарылася? Па словах гандляроў відэапрадукцыяй, цяжкасці пачаліся пасля таго, як беларускія парламентарыі прагаласавалі за новую рэдакцыю закона «Аб аўтарскіх і сумежных правах». Пэўныя змены былі патрэбныя, але дэпутаты думалі не столькі пра чысціню юрыдычных фармулёвак, колькі пра напаўненасць бюджэту. Памер штрафу за парушэнне аўтарскіх правоў яны паднялі з пяці мінімальных заробкаў да 50 тысяч мінімальных заробкаў (сёння гэта больш за 12 мільярдаў рублёў). Калі ўлічыць, што ніводная відэафірма не працуе без выкарыстання пірацкіх відэакопіяў, такія штрафы ставяць відэапракатчыкаў пад пагрозу «імгненнай смерці». Больш таго, працэс супраць відэапіратцтва можа ўзбудзіць не толькі ўладальнік «аўтарскага права», але і нашая дзяржава. Прычым з парушальніка будзе спаганяцца як штраф, так і даход, ды яшчэ шматлікія працэнты з яго. Гэта азначае непазбежнае банкруцтва.

«Такія правілы ёсць не што іншае, як абвяшчэнне нам смяротнага прысуду», — так пракаментаваў сітуацыю знаёмы супрацоўнік відэафірмы Сяргей Н. Ён прапануе, што з відэапіратцтвам трэба змагацца, але цывілізавана. Перш за ўсё шляхам стварэння ўмоваў, пры якіх працаваць на законнай падставе будзе выгадней, чым па-піратску. Але дзяржава павінна разумець, што калі сярэдні заробак у краіне 50 долараў, людзі не хутка змогуць плаціць за відэастужку столькі ж, колькі ў ЗША, дзе зарабляюць па некалькі тысяч. І таму на пэўную частку піратскіх копіяў лепш да часу не звяртаць увагу. Так робіцца ў краінах, што крок за крокам ідуць да сапраўднага рынку. На жаль, у нас дзяржава хоча зрабіць усё адразу і ў выніку проста знішчае тых, хто займаецца відэапракатам на легальным узроўні, мяркуе Сяргей. Па ягоных прагнозах, калі астранамічныя штрафы супраць відэапіратаў сапраўды пачнуць выкарыстоўваць, відэабізнес канчаткова пяройдзе ў стан «чорнага рынку».

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## У Анголе пацярпеў катастрофу беларускі самалёт

26 жніўня за 80 кіламетраў на поўдзень ад сталіцы Анголы горада Луанда пацярпеў катастрофу транспартны самалёт Ан-12, які належаў беларускаму закрытаму акцыянернаму таварыству «Тэхавіясэрвіс». Пяць членаў экіпажа і восем грамадзянаў Анголы, якія суправаджалі груз народнагаспадарчага прызначэння, загінулі. Для ўстанаўлення абставінаў і высвятлення прычынаў катастрофы Беларускай транспартнай пракуратурай узбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Парушэнне правілаў бяспекі руху і эксплуатацыі транспарту» — і пачата расследаванне.

Як паведаміў беларускі транспартны пракурор Мікалай Каралюк, паводле папярэдніх дадзеных, прычынай катастрофы паслужыла спыненне працы аднаго з рухавікоў самалёта і пажар другога. 31 жніўня ў Анголу вылецела спецыяльная камісія, створаная з прадстаўнікоў Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па авіяцыі, кампаніі «Тэхавіясэрвіс», Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта СНД. Свае вывады аб прычынах катастрофы спецыялісты прадставяць у Беларускую транспартную пракуратуру.

Па словах М.Каралюка, экіпаж самалёта працаваў у Анголе па кантракце са снежня 1997 года, ажыццяўляючы грузавыя і пасажырскія перавозкі.

*БелаПАН*

## Калі пачалася вайна?

**Першага верасня ў беларускіх касцёлах ксяндзы нагадвалі вернікам, што ў гэты дзень пачалася Другая сусветная вайна.**

Першымі ўступілі ў бой, як вядома, польскія жаўнеры ў Гданьску, якіх абстрэльваў зблізку нямецкі браняносец «Шлезвіг—Гальштэйн». Сярод 182 абаронцаў былі і жыхары Заходняй Беларусі, самы вядомы з іх пісьменнік Янка Брыль.

Гэтая дата, аднак, ніяк не адзначаецца ў постсавецкай Беларусі. Наадварот — замоўчваецца. Добра вядома, што Брэсцкая «крэпасць-герой» абаранялася ў 1939 годзе Войскам Польскім. Пасля бамбардзіровак пры падтрымцы савецкай артылерыі немцы захапілі яе 17 верасня. Потым быў сумесны парад немцаў і рускіх і абмен сцягамі: чырвоны з сярпом і молатам памянялі на чырвоны са свастыкай. Дзеля ўмацавання братэрства па зброі.

У савецкія часы пра гэта зусім не пісалі. Цяпер таксама афіцыйна праслаўляецца толькі абарона крэпасці Чырвонай Арміяй у 1941 годзе. Наладзілі нават збор сродкаў па СНД для яе рамонту.

Не ведаю як каму, а мне было крыху ніякавата, калі сёлета 22 чэрвеня маскоўскія тэлевядучыя нагадвалі, што ў гэты дзень нямецкія бомбы пачалі падаць на іхнюю радзіму. Хаця добра вядома, што вайна пачалася на Беларусі і Украіне. Але для іх там, напэўна, гэта тое ж самае, што — Расія. Нездарма ж, у Брэсцкую крэпасць усё наяжджаюць члены іхняй Думы. Каб пастаяць ля заходняга рубяжа хаця б з дуляй у кішэні.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Звон паставілі ў кут

**Праваслаўная Спаса-Праабражэнская царква г.Смаргоні атрымала падарунак. На жаль, вернікі не вельмі рады.**

На грошы, збор якіх арганізаваў Віктар Роўда, сын колішняга настаяцеля царквы Уладзіміра Роўды, быў адліты звон. Але вось бяда: звон зроблены не вельмі якасна, а таму гучыць дрэнна. Нашмат меншы (але, відаць, зроблены з душой) звон, што вісіць у рызніцы, гучыць званчэй.

Пакуль паставілі звон у кут, а што з ім рабіць — ніхто не ведае. І рэч добрая, і толку з яе мала.

**Андрэй ПАВЕРСКІ,** *«Новая газета Сморгони»*

## Каўказскі арсенал у Брэсце

**Нелегальны рынак зброі ў Беларусі папаўняецца за кошт паставак гэтага тавару з «гарачых кропак».**

Днямі ў Брэсце міліцыя затрымала некалькіх каўказцаў, якія спрабавалі прадаць два новыя баявыя пісталеты з глушыцелямі. Пачалося расследаванне, якое вывела аператыўнікаў на след 20-гадовай жыхаркі Брэста, у доме якой міліцыянты знайшлі яшчэ два такія ж ствалы.

А нядаўна ў цэнтры Брэста міліцэйскі нарад затрымаў двух прадпрымальных грамадзянаў, у сумках якіх было знойдзена аж 6 тысяч патронаў да аўтамата Калашнікава. Няўдалыя бізнесмены хацелі выгадна прадаць увесь гэты боезапас мясцовым крымінальным структурам.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Падзяка Клінтану ад «простых людзей»

**Дыпламатычны скандал вакол пасольскіх рэзідэнцыяў у Драздах выклікаў самую розную рэакцыю ў людзей. Нават, нечаканую.**

Напрыклад, некалькі жыхароў з райцэнтра Крычаў, што ў Магілёўскай вобласці, накіравалі прэзідэнту Білу Клінтану тэлеграму наступнага зместу: «Шчыра дзякуем Вам і Кангрэсу ЗША за новы візавы рэжым для кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь!» За адпраўку такой кароткай тэлеграмы пошта ўзяла 260 тысяч беларускіх рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Моладзь радыкалізуецца

**У Магілёве 51 працэнт маладых людзей лічаць, што ў нашай краіне расце сацыяльнае напружанне. Пра гэта сведчаць вынікі апытання, праведзенага мясцовым сацыялагічным цэнтрам.**

Амаль 5-я частка апытаных гаражанаў лічыць, што ў краіне неўзабаве могуць адбыцца сацыяльныя выбухі. Сярод іх усяго 14% падтрымліваюць палітыку Аляксандра Лукашэнкі і 27% адмаўляюць яму ў гэтай падтрымцы. Толькі сельская моладзь адзначаецца «прапрэзідэнцкай» арыентаванасцю. Сярод вяскоўцаў 70% апытаных сталі на бок прэзідэнта.

32% рэспандэнтаў лічаць, што ўлада ў Беларусі належыць мафіі і чыноўніцкай бюракратыі. І ўсяго 6% мяркуюць, што ўлада ў нашай краіне належыць народу.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Без ошейника шея мерзнет

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Конечно, БПСМ далеко до комсомола с точки зрения «охвата», но в в столице, по данным отдела по делам молодежи Мингорисполкома, уже создано 309 первичек, насчитывающих 8.125 членов-патриотов.

Секрет такого количественного роста прост: городские власти издали распоряжение (№ 771 от 9 июля) оказывать всесторонною помощь руководству и активистам БПСМ. Так что если вам нужна помощь...

Правда, исполкомовцы признают, что не все стремятся оказывать «патриотам» всестороннюю помощь. Например, ЖРЭО уклоняются от внесения взносов в размере 2% своих доходов для создания многопрофильных центров по месту жительства. Эти ЖРЭО можно понять, поскольку их доходов не всегда хватает для элементарной уборки разного рода дерьма. А потом, отремонтируй подвал для какого-нибудь «многопрофильного» Швондера, он тут же станет «постукивать». Смотришь и за уплотнение примется, ведь Шариковых, у которых «без ошейника шея мерзнет», среди такой молодежи предостаточно.

Кстати, в Минске на учете по улучшению жилищных условий состоит более 46 тысяч молодых семей. Но за два года после шумихи по поводу введения льготного (президентского) кредитования молодежи такие кредиты получили всего 439 семей, или 0,9% от числа нуждающихся. При таких темпах последние «молодые люди» получат вожделенное жилье через... 100 лет.



*По данным Мингорисполкома, в Минске уже более 8 тысяч «патриотов».*

А тем временем дяди из горисполкома записывают в свое «молодежное решение» странное суждение: в столице, мол, не хватает дискотек и клубов по интересам, что затрудняет «проведение системной работы по становлению и развитию молодой семьи». Что тут сказать? Даже в прежние времена считалось, что в первую очередь нужна кровать и комната (хорошо бы не проходная, потому что такого рода «системная работа» не терпит посредников).

Но, как видим, БПСМ взял на себя функции сексуального дистрибьютера, прежде возложенные на комсомол непосредственно вождем мирового пролетариата и его товарищем Кларой Цеткин. Детей, мол, не аист приносит, а партячейка в лице секретаря тов.Парамоновой. Ныне что, подсуетятся тов.Янчевский со своим куратором Чикиным?

Правда, есть одно «но». Прежние комсомольцы завершали тем, с чего начинают нынешние. Те же дискотеки и клубы по интересам, конкурсы «патриотической песни» в апогей застоя были единственным живым делом, которое позволяло комсомолу как-то цепляться за молодежь, оправдывая тем самым своих боссов перед партийными товарищами. Идеологическая девственность для них была ширмой, за которой делались карьеры и делились деньги. Прежние завершали идейные искания как прожженные прагматики, для которых многочисленные научно-технические центры и МЖК стали трамплином в бизнес. Ныне только неудачники из их числа бродят в поисках политического ошейника, остальные востребованы жизнью.

*Россия*

# Что пишут?

*«К декабрю в России цены на товары повседневного спроса могут подняться на 30-50 процентов»*, — прогнозирует газета **«Труд»**. Многие импортные товары за этот же период могут подорожать более чем в два раза. В этой ситуации власти намерены ввести жесткое регулирование цен на 25 основных товаров. *«Это хлеб, мука, крупы, сахар, мясо, колбасы вареные и полукопченые, рыба, молоко, сметана, сыр, яйца, маргарин, мыло, соль и спички»*, — уточняет газета «Труд».

*«Может ли визит американского президента способствовать установлению политической и экономической стабильности в России»*, — задается вопросом газета **«Финансовые известия»**. Клинтону теперь будет куда труднее, чем прежде помочь Ельцину. На переговорах в Москве неизбежно встанет вопрос о банкротстве курса реформ в России. *«Клинтон может способствовать получению кредитов в МВФ, но сейчас, на фоне политической нестабильности в России, это становится нелегкой задачей»*, — отмечают «Финансовые известия».

*«Политические события в России приобретают непредсказуемый характер»*, — пишет **«Независимая газета»**. В случае если кандидатура Виктора Черномырдина не будет утверждена, президент грозит Думе роспуском. Однако согласно Конституции у президента сейчас нет возможности ни распустить Думу, ни ввести чрезвычайное положение. *«Во всяком случае нет законной возможности сделать это»*, — отмечает «Независимая газета».

*«В международном аэропорту «Шереметьево-2» таможенниками был задержан сын курского губернатора Александра Руцкого»*, — информирует **«Комсомольская правда»**. Он пытался вывезти из страны 13 тысяч незадекларированных долларов. *«Валюту конфисковали, и губернаторскому сыну пришлось лететь за рубеж налегке»*, — пишет «Комсомольская правда».

*Обзор подготовил*
**Дмитрий КОСТЕНКО**

# Біл у Маскве

*Два параненыя прэзідэнты сустрэліся*

Учора раніцай у Маскву з трохдзённым візітам прыбыў прэзідэнт ЗША Біл Клінтан з жонкай.

Пасяліўся Біл Клінтан у цэнтры Масквы — у гатэлі «Марыёт». І адразу пачаў актыўную дзейнасць. Усклаўшы кветкі да магілы Невядомага салдата, амерыканскі прэзідэнт накіраваўся ў Крэмль, каб сустрэцца з сваім расійскім калегам. Напачатку сустрэчы Барыс Ельцын заявіў для журналістаў: *«У Расіі і ЗША добрыя адносіны»*, *«Мы з Білам Клінтанам сябры»*.



*Біл Клінтан атрымаў у якасці падарунка ад Барыса Ельцына копію амерыканскага сцяга часоў грамадзянскай вайны ў ЗША (сярэдзіна XIX ст.).*

Па словах прэс-сакратара расійскага прэзідэнта Сяргея Ястржэмбскага, галоўнай тэмай расійска-амерыканскіх перамоваў стаў эканамічны крызіс у Расіі і шляхі ягонага пераадолення.

Расійскія аналітыкі сцвярджаюць, што расійска-амерыканскія перамовы наўрад ці будуць паспяховымі. Расія будзе зноў прасіць грошай у ЗША і міжнародных фінансавых арганізацыяў для стабілізацыі свайго эканамічнага становішча і падтрымкі рубля. Але ўсё, што сёння Захад рэальна можа запрапанаваць Расіі, — гэта толькі маральную падтрымку курса рэформаў. На думку заходніх фінансістаў, пасля таго, як Расія «выбіла» з МВФ крэдытную лінію на 22,6 мільярда долараў, стан расійскай эканомікі толькі значна пагоршыўся.

У абмен на маральную падтрымку і некалькі «каштоўных» парадаў Вашынгтон хоча ад Масквы абмежавання экспарту ваенных тэхналогіяў і скарачэння ядзерных узбраенняў.

У Амерыцы сустрэчу Барыса Ельцына і Біла Клінтана называюць «сустрэчай двух параненых прэзідэнтаў». Праўда, Клінтан пацярпеў ад скандалу з Монікай Левінскі куды меней, чым Ельцын — ад абвалу рубля. І цяпер «сябра Біл» працягвае руку дапамогі «сябру Барысу». Зрэшты, нават сяброўская дапамога Біла Клінтана не паспрыяе іміджу Расіі як краіны, у якой можна рабіць бізнес. Пасля апошніх падзеяў на расійскім рынку амерыканскія інвестары яшчэ вельмі не хутка пажадаюць укласці свае долары ў эканоміку Расіі.

Сёння Біл Клінтан працягне свае сустрэчы з Барысам Ельцыным. Чакаецца падпісанне шэрагу міжнародных пагадненняў і сумесная прэс-канферэнцыя.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Ельцин не распустит Думу

*«Если она будет себя хорошо вести»*

*«Я буду бороться за то, чтобы кандидатура Виктора Черномырдина была утверждена в ближайшую неделю»*, — заявил сегодня президент России Борис Ельцин после посещения московской 1130-ой школы в Крылатском. Комментируя отказ в понедельник Госдумы утвердить Виктора Черномырдина на должность председателя правительства РФ, глава российского государства отметил, что *«первый заход не удался. Но это — моя кандидатура, и я буду на ней настаивать»*. Борис Ельцин пояснил, что утверждать премьера надо как можно быстрее, поскольку *«каждый потерянный день — это многие миллионы убытков. Это потерянный день для страны. Это потерянный день для людей. Это надо знать»*.

Отвечая на вопрос, президент России отметил, что он не будет идти на роспуск Госдумы и пойдет с ней на компромисс, *«если она будет себя хорошо вести»*.

**Б.П.**

*Молдова*

## «Ядерный взрыв» в парламенте

**В Молдове разразился политический скандал, связанный с тайным решением правительства.**

Оказалось, что один из министров подписал лицензию на транзитный перевоз через Молдову из Болгарии в Россию радиоактивных отходов с Козлодуйской атомной электростанции. Впрочем, радиоактивное топливо из России в Болгарию и отработанные отходы оттуда через территорию Молдовы транспортировались еще с 1974 г., но после 1991 г. транспортировка была прекращена. Но ни до, ни после население Молдовы о прохождении опасного груза ничего не знало. Вопрос был вынесен на рассмотрение парламента. Оказалось, что у депутатов нет единой позиции. Против транзита голосовали депутаты демократической конвенции, за — правые силы. Каждая сторона предлагала свои неоспоримые аргументы. Решающими были голоса коммунистов.

Как бы там ни было, решение парламент принял, а правительство транзит разрешило. Он должен состояться в начале сентября. Правда, партии демократических сил оспорили решение парламента в конституционном суде Молдовы, но он еще не вернулся с летних каникул. Так что — зеленый семафор. Взрыв в парламенте был ложной тревогой.

**Васыль ТВЕРДОХЛИБ**

*Швейцария*

## Вклад перестает быть тайной

**Новый закон о борьбе с отмыванием «грязных денег» обязывает швейцарские банки, частные компании и пункты обмена валюты регулярно сообщать властям о подозрительных финансовых операциях.**

Закон дает банкам право блокировать сомнительные счета на срок до пяти дней, не сообщая об этом клиенту. Информация, представленная бдительными финансистами, стекается в своего рода «банковскую полицию» — «Бюро по связи». После принятия закона 1 апреля в бюро поступило 35 «сигналов», заморожены счета на сумму 57,8 млн. франков (около 40 млн. долларов). Значительная часть заблокированных счетов принадлежит клиентам-иностранцам. Принятие нового закона стало ответом властей на растущий в последние годы поток «грязных денег». По данным правоохранительных органов, в 1997-м по сравнению с 1996 годом число случаев отмывания денег увеличилось на 200 процентов. В частности, в страну хлынули наркодоллары из Латинской Америки и деньги русской мафии.

**И.Т.**

# Новое время «Солидарности»

«Успех деятельности правительства зависит от того, будет ли оно понято и поддержано обществом», — эта фраза была неслучайной в программном выступлении премьера первого правительства «Солидарности» Тадеуша Мазовецкого. Глубокий экономический кризис, охвативший Польшу в конце 80-х годов, диктовал необходимость радикальных реформ. То, что такие реформы будут жесткими и непопулярными, было очевидно всем. Партия, правительство, президент, которые рискнут взять на себя ответственность за осуществление радикальной экономической программы, обречены стать мишенью общественной критики. Это политическая аксиома. Лидеры «Солидарности», конечно, знали это и отдавали себе отчет, что, начиная либеральные реформы, они бросают на карту весь авторитет профсоюза. Однако другого выхода у них не было: отказаться от перестройки экономики означало механически перенять у прежнего режима его методы управления, построенные на пустых обещаниях и подкрепленные милицейскими дубинками.

Обращаясь к истории польской «Солидарности», мы ни в коем случае не собирались создавать апологетический портрет этого профсоюза, затемняя те или иные противоречивые страницы его истории, к одним из которых относится проведение экономических реформ начала 90-х гг.

Вновь легализированный в 1989 году профсоюз, безусловно, был ведущей силой польского общества, о чем свидетельствует, между прочим, убедительная победа Леха Валенсы на президентских выборах 1991 года. С другой стороны, «вторая Солидарность» совершенно отличалась (да и не могла не отличаться) от «Солидарности» образца 1981 года. Речь идет не только о численности. Самое главное отличие «Солидарности» 81-го заключалось в том, что это было уникальное по массовости и общественной активности движение. Люди впервые в жизни чувствовали себя личностями, творцами новой реальности. И никому, даже лидерам профсоюза, не позволяли принимать решения в авторитарном духе. Отсюда так называемый «анархо-синдикалистский» пункт в программе «Солидарности» 81-го, требующий введения самоуправления на предприятиях. В ходе борьбы с военной хунтой положение изменилось. Обстоятельства и условия подпольной профсоюзной деятельности выдвинули в руководство группу лидеров, прошедших через тюрьмы, аресты и допросы. Эти люди пользовались огромной популярностью в профсоюзе и имели поддержку широких слоев польского общества.

Хорошо это или плохо, но они убедили профсоюз силой своего авторитета поддержать экономическую программу Бальцеровича. Программа вступила в действие в 1991 году. Она предполагала полное прекращение государственного дотирования убыточных предприятий, либерализацию цен, приватизацию производства. Итоги такого рода экономической реформы, или, как ее еще называли, «шоковой терапии», сразу же дали о себе знать.

С начала действия курса Бальцеровича безработица выросла с 0,3% в январе 1990 г. до 11,4% к концу 1991 г. Массовые увольнения стали обычным явлением. Число претендентов на рабочее место выросло с 1-го до 33-х человек, а для женщин — даже до 70.

Все это не могло не сказаться на самом профсоюзе. В течение короткого времени из «Солидарности» выходят радикальные фракции, например, «Солидарность-80», «Борющаяся Солидарность». Вчерашние друзья становятся врагами. В мае 1991 г. в стране начинается всеобщая забастовка. Рабочие волнения будут продолжаться все лето и приведут к формированию нового правительства Анны Сухоцкой. Впрочем, это не решает проблемы: весной 1992 г. «встают на дыбы» металлисты. К ним тут же присоединяются транспортники. Не успело стихнуть эхо этой стачки, как начались шахтерские беспорядки в Силезии. Во всех случаях одни и те же требования — прекратить «шоковую терапию», и во всех случаях не менее однозначная реакция правительства — никаких уступок. Безусловно, это были самые напряженные дни в истории «Новой Солидарности», сравнимые с перипетиями борьбы с диктатурой.

В сентябре 1993 г. красивая сказка о «Солидарности», казалось, рухнула навсегда. По результатам выборов в новый Сейм «Солидарность» потерпела сокрушительное поражение. Блок социал-демократов (бывших коммунистов) и аграриев обладал в парламенте абсолютным большинством: 171 мандат, которым «Солидарность» могла противопоставить лишь 10. В разряд поражений профсоюза можно отнести и победу на президентских выборах 1995 г. кандидата социал-демократов Александра Квасьневского.

Смена власти в Польше, казалось бы, должна означать сворачивание реформ. Однако ничего подобного не произошло. Вчерашние коммунисты, которые, кстати, давно уже благополучно устроились в новых условиях, поняли, что альтернативы рыночному вектору нет. Польская экономика прошла отметку спада и вступила в фазу подъема. В такой ситуации деятельность правительства и профсоюзов стала заключаться в оперативном и гибком решении конкретных проблем, возникающих в социальной сфере. «Солидарность» снова почувствовала себя в своей тарелке и начала постепенно выходить из кризиса. Безусловно, результатом уроков 1990-1995 гг. стало повышенное внимание к социальным проблемам.

Забастовки 1994 г. и 1997 г., главной действующей силой которых была «Солидарность», показали, что профсоюз на правильном пути. Организация восстановила свое влияние на местах и подошла к парламентским осенним выборам 97-го с намерением взять реванш.

Результаты выборов свидетельствуют о том, что возрождение «Солидарности» — неоспоримый факт. Кандидаты от «избирательной акции «Солидарности» получили относительное большинство в Сейме и сформировали новое польское правительство.

Польские трудящиеся преподали всем урок: если рабочие вместе с интеллигенцией активны, сплочены, держаться друг за друга, если выдвигают требования и солидарно добиваются их выполнения — они побеждают. Если между ними воцаряется отчуждение, апатия, вера в кудесника-реформатора или в военного диктатора, который единственный знает «как надо» — даже самые большие победы пойдут прахом.

**Кирилл КУДРЯВСКИЙ**

*(Окончание. Начало в №№ 85—91)*

***Материал подготовлен при содействии редакции бюллетеня «Рабочий»***



## Жонка Адамкуса частавала прэсу

Першая лэдзі Літвы Алма Адамкене ***(на здымку злева)*** арганізавала для журналістаў прыём, на якім частавала прадстаўнікоў прэсы цэпелінамі — гэтая нацыянальная літоўская страва аналагічная беларускім калдунам (бульбяным клёцкам з мясам). Такім чынам жонка прэзідэнта Адамкуса выканала сваё абяцанне, якое дала журналістам у тую ноч, калі скончыўся падлік галасоў і стала вядома, што Валдас Адамкус абраны прэзідэнтам Літвы.

Прыём адбыўся ў сядзібе агранома Ёнаса Валайціса, які ўжо шмат гадоў займаецца селекцыяй бульбы. Менавіта ягоную бульбу выкарыстоўвала пані Адамкене для сваіх цэпелінаў. Прэзідэнт Адамкус таксама прыйшоў пакаштаваць жончыны прысмакі, застаўся задаволены і не забыўся нагадаць прысутным, што бульба была і застаецца ў Літве «стратэгічнай сельскагаспадарчай культурай».

*ELTA*

## Дэпрэсія зваліла прэм'ера

**Прэм'ер-міністр Нарвегіі 50-гадовы Х'ель Магне Бондэвік захварэў і не выйдзе на працу як мінімум да канца гэтага тыдня.**

Нарвежскі прэм'ер пакутуе ад... дэпрэсіі, якая з'явілася ў яго ад вельмі напружанай працы. «Перапрацаваўся», — паставіў дыягназ лекар. І выпісаў бальнічны да канца гэтага тыдня.

Х'ель Бондэвік стаў прэм'ерам Нарвегіі ў кастрычніку 1997 года, ён узначальвае хісткую трохпартыйную кааліцыю. Апошнім часам Х.Бондэвіка моцна крытыкавалі за падзенне курса нацыянальнай валюты — нарвежскай кроны — і падвышэнне ставак банкаўскага працэнта. Гэтыя працэсы звязаныя з падзеннем цэнаў на нафту, а таксама з эканамічным крызісам у Паўднёва-Усходняй Азіі і Расіі.

Да поўнай папраўкі здароўя прэм'ер-міністра ягоныя абавязкі будзе выконваць міністр культуры Анна Энер Лахнстэйн. А візіт Х.Бондэвіка на Блізкі Усход, які планаваўся на 7-12 верасня, пакуль адкладзены на няпэўны тэрмін.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## У Колумба адвокатов нет

**Трудно сказать, какое наказание ожидает известного мореплавателя Христофора Колумба. Это выяснится, когда завершится судебный процесс, проходящий в эти дни в Гондурасе.**

Иск подан индейскими племенами этой латиноамериканской страны. Обвиняемый присутствует на заседаниях — на стене зала суда висит его большой живописный портрет.

На слушаниях были предъявлены неоспоримые доказательства геноцида, начавшегося, когда Колумб открыл Америку в 1492 году. Обвинение цитирует многочисленные исторические труды, показывающие, какое зло причинил этот португальский путешественник людям и природе открытого им континента. За ним числятся *«незаконное лишение свободы, этнический геноцид, хищение ценностей, захват территории, торговля рабами, пытки, разрушения, незаконная торговля природными ресурсами, насильное навязывание чуждой культуры»*.

На двух состоявшихся судебных заседаниях утверждалось, что колонизаторы уничтожили в общей сложности около 70 млн. коренного населения на американском континенте. Таким образом, это можно считать самым большим геноцидом в истории человечества.

Колумб висит молча и на эти ужасные обвинения ничего не отвечает. Процесс проходит без адвокатов.

**Бронислав НЕЖНЫЙ**

## Символ Евросоюза на банке пива

**Если в каком-нибудь магазине вы увидите краковскую колбасу, это совсем не значит, что она сделана в старинном польском городе. Однако когда Польшу примут в Европейский союз, краковской сможет называться только та, которую делают в Кракове.**

Это следует из принятого недавно в ЕС закона. Европейская комиссия утвердила специальные знаки для защиты подлинности географического происхождения зарекомендовавших себя на мировом рынке продуктов. На этикетках будет печататься обрамленный желтой каемкой синий круг с 12 звездами, символизирующими ЕС.

Право использовать его уже предоставлено производителям примерно 500 видов пищевых продуктов, четверть которых составляют разные сорта сыра. Среди них также мюнхенское пиво, арденнская ветчина и т.д. По мнению Еврокомиссии, это должно исключить спекуляцию на географических названиях в конкурентной борьбе.

**Александр МИНЕЕВ**

## Цыганская азбука

**На Украине вышла в свет тиражом 1.000 экземпляров первая цыганская азбука.**

За основу ее создатели — граждане республики Илья Мазурэ и Михаил Козимиренко — взяли кириллицу, грамматика же во многом позаимствована из украинского языка. Первая партия учебников направлена в Ужгород, где проживает большинство украинских цыган, многие из которых неграмотные.

*ИМА-пресс*

# Рай в Майами, за который не платит Пугачева

Софи Лорен, Мадонна, родственники Аль Капоне, сам Сильвестр Сталлоне, Майкл Джексон, Брюс Уиллис — давно и, видимо, надолго «прописались» в Майами. На ступеньках особняка Версаче, что в центре Саус Бич, почти всегда лежат живые цветы. При желании, договорившись с охраной, можно даже войти в дом, прикоснуться к великому...

### Игра стоит свеч

Есть в Майами несколько мест, где все ориентировано на «новых русских». Одно из них — жилой комплекс на острове Океания. Говорят, что эти два тридцатиэтажных соединенных между собой небоскреба с прилегающими к нему службами с самого начала предполагались на продажу для постсоветских нуворишей. Еще бы! 300-700 тысяч долларов наличными за каждую квартиру в один момент окупали стоимость постройки всего этого грандиозного места. В масштабах замысла американцы сомневаться не приходится.

Площадь квартир в Океании колеблется в пределах 142-358 кв. метров. Ванные комнаты с непременными ваннами-джакузи украшены мрамором. Огромные застекленные и увитые зеленью балконы напоминают террасы. По последнему слову современной техники оборудованы кухни. На каждом этаже Океании по шесть квартир, которые обслуживают три скоростных лифта. С любого этажа — удобный выход на спортивные площадки с бассейнами, лужайками для гольфа, тенниса, волейбола и баскетбола. На нижних этажах зданий — гимнастический зал, сауна, салоны красоты, различные студии. Здесь же — рестораны, банкетные и кинозалы. На острове — 48 причалов для яхт, павильоны для развлечений. А океан! А пляжи! В общем, настоящий Эдем.

### Ах, Алла!

Почти половина всех живущих здесь — бывшие граждане бывшего многонационального СССР. Данные о постояльцах Океании можно найти в местной налоговой службе: по американским законам, эта информация открыта для публики.

Например, весьма известная в России и не очень популярная в Америке Алла Пугачева имеет в Океании 11 (одиннадцать!) квартир с 5-го по 16-й этаж общей площадью примерно 2.387 метров. Не составит большого труда проверить эту цифру: для этого 2.340 квадратных футов (общая полезная площадь каждой квартиры) следует умножить на 11 и перевести это число в квадратные метры.

Дело не в том, что из 11 квартир, официально зарегистрированных на имя Аллы Борисовны, для общественности существует только одна; и даже не в том, что знаменитое семейство практически не проживает в Майами, а непонятно кому принадлежащие квартиры пустуют. Дело в том, что все это недвижимое богатство Пугачевой вот-вот превратится в полный финансовый ноль. И если вновь заняться математикой и указанную в документах цену за каждую квартиру — 555.900 долларов — помножить на 11, получится 6 миллионов 158 тысяч долларов — сумма, которую великая певица может в одночасье потерять, если в срочном порядке не сделает то, что у нас называется «погашением долгов по квартплате и коммунальным услугам». Владелица-то жилья — Пугачева!



### Должок в 200 тысяч

Со слов людей, проживающих в этом доме, и торговцев недвижимостью (которые, естественно, пожелали остаться анонимными) вырисовывается следующая картина.

В начале 1996 года, когда Пугачева купила 11 квартир в Океании, риэлтер, производивший сделку (сейчас его, понятно, не найти) скорее всего не поставил Аллу Борисовну в известность насчет обязательной ежемесячной «квартплаты» за собственность. Возможно, что договор оформлялся без переводчика и доверчивая русская клиентка поставила свою подпись, не вчитываясь в бумаги.

Сумму ежемесячной квартплаты в Океании, равную примерно 700 долларам, умножим на 12 (по числу месяцев в году), затем на 11 (количество квартир Пугачевой), а потом еще на 2 (количество лет, прошедших с момента подписания договора), прибавим сюда годовой налог — примерно 14.000, — и получим 198.800 долларов. Не исключено, что у официальных служб совсем иная методика подсчета, и с учетом набежавших процентов сумма получится больше, но суть-то остается.

Чем закончится неприятная история для знаменитой певицы — пока трудно сказать (будем надеяться, что ее полной победой). Факт, что ни она, ни члены ее семьи не находятся в Майами, и официального дела по пугачевским квартирам не заведено — так, одни разговоры. Но умные-то головы знают, что это в России можно годами не вносить квартплату, тем более если ты крутой и великий. А в Америке 198 тысяч — деньги немалые, и шутить с ними никто не намерен.

*По материалам «Нового русского слова»*

## Узнают ли животные себя в зеркале?

Чтобы ответить на этот вопрос, еще тридцать лет назад американский психолог Гордон Гэллап наносил под наркозом на морду шимпанзе два-три пятна красной краски. А потом предлагал очнувшемуся от наркоза животному зеркало. Узнать об изменении своего облика обезьяна могла только по отражению. И ей это удавалось. Животное начинало трогать окрашенные участки, затем рассматривало и нюхало свои перепачканные пальцы, а нередко и принималось счищать пятно. Гэллап сделал вывод, что обезьяна узнает себя в зеркале и понимает, что перепачкан краской не кто-то, а она сама.

С тех пор ученые подвергли тому же тесту множество видов животных — кошек, собак, птиц, слонов, дельфинов, более двух десятков видов обезьян. Оказалось, что узнают себя в зеркале только крупные человекообразные обезьяны — шимпанзе, гориллы, бонобо, орангутаны. Причем для того, чтобы понять ситуацию, им требуется от нескольких минут до нескольких дней. Некоторые особи справляются быстрее, другие — медленнее. Почти сдали экзамен дельфины (у ученых остались некоторые сомнения).

Когда Гэллап поставил зеркало в клетку с парой макак и они привыкли к новому предмету обстановки, стало ясно, что себя в зеркале они не узнают, зато узнают служителя, который приходил их кормить и чистить клетку. Увидев его в зеркале, они оборачивались к нему и начинали общаться.

Птицы воспринимают свое отражение как реальную птицу своего вида. Это хорошо знают владельцы попугайчиков, они вешают для развлечения зеркальце в клетку одинокой птице. Австралийские орнитологи, которым нужно было для исследования поймать несколько самцов лировхвоста, с успехом использовали ловушки с зеркальной задней стенкой. Птица заходит туда, чтобы выяснить отношения с соперником.

Кстати, человек начинает воспринимать себя в зеркале в возрасте 12 -18 месяцев.

## Султан Брунея потерял 10 миллиардов долларов

**Финансовые потрясения не миновали второго по богатству (после Билла Гейтса) человека мира.**

Султан Брунея Хаджи Хассанал Болкия за последнее время потерял около 10 млрд. долларов. Виной тому, правда, не мировой финансовый кризис, а родной брат султана, которому крупно не повезло в бизнесе.

**СВАБОДА НАВІНЫ** ў Internet:
http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1230 Нумар падпісаны ў друк 01/09/98 (15:19) Наклад — 19.820